# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

*№ 20 (34)* *9—15 ліпеня 1993 г.* *Кошт 5 рублёў*




◆◆◆

**У выдавецтве «Беларусь» выходзіць кніга Вітаўта Кіпеля «Беларусы ў ЗША», падрыхтаваная супольна Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Новым Ерку й Нацыянальным навукова-асьветным цэнтрам імя Фр. Скарыны ў Менску. Пераклад з ангельскай мовы зрабіў Сяргей Шупа. Неўзабаве кніга выйдзе таксама на мове арыгінала ў Амэрыцы.**

**Як пазначана,— у тэксьце кнігі выкарыстаны правапісны варыянт беларускай мовы, які ўжываецца ў друкаваных выданьнях беларусаў паваеннае хвалі эміграцыі. Цікава, што ў кнізе надрукавана мапа ЗША, на якой пазначана колькасьць беларусаў у кожным штаце паводле неафіцыйных падлікаў. Найбольш іх у штатах Новы Ерк — 110 000, Пэнсільванія — 100 000 і Ілінойс — 80 000. У некаторых штатах беларусаў 50—65 тысяч, найменш нашых землякоў у Паўднёвай Караліне, Юта, Тэнэсі — усяго па 500 чалавек. На Алясцы й Гаваях — па 1000.**

**Кніжка вызначана, як масава-палітычнае выданьне, але мае тыраж усяго 5 тысяч паасобнікаў.**

**С. А.**




## Вітаўт Кіпель у Горадні

**Выдатны горад — Горадня,— гаворыць дырэктар Беларускага інстытута навукі й мастацтва ў Новым Ерку Вітаўт Кіпель. З нагоды канфэрэнцыі «Рым-IV» спадар Кіпель упершыню пабываў у Горадні. З ім пагутарыў карэспандэнт «Пагоні».**

**В. Кіпель.** Горадня — выдатны беларускі гістарычны горад. Уражаньне ад яго цудоўнае. Ён захаваў сваё аблічча — найбольш як іншыя гарады. Мы прайшліся па вуліцах Горадні, наведалі музэй, царкву, касьцёл, таксама дом, дзе была першая аптэка. Пабачылі цэнтр горада, пабылі на Немане. Набылі шмат кніжак у кнігарні. Асабліва нас цікавіць Стары горад 17—18 стагоддзя, бо надзвычайная рэч, што гэта ўсё захавалася й, спадзяюся, што захаваецца назаўжды.

**— Як Вы лічыце, ці дасягаюць сваёй мэты такія канфэрэнцыі, як «Рым-IV»?**

**В. Кіпель.** Гэтыя канфэрэнцыі вельмі важныя, мы мусім выпрацаваць супольныя погляды, супольныя падыходы, супольнае тлумачэньне гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Асабліва гэта патрэбна маладому пакаленьню. У гістарычнай навуцы да гэтага часу Вялікае Княства Літоўскае вывучалася ў спосаб адзінальчны. Кожная наша нацыя — сабе. І ня было праэктаў супольнага вывучэньня, узаемадзеяньня розных нацыянальных

**(Працяг на 3-й стар.).**

## У якой краіне жывем?

Ужо неаднойчы тэлефанавалі нам жыхары Горадні і пыталі, чаму на будынку аблвыканкама пад бел-чырвона-белым сьцягам вісіць гэрб БССР,— дзяржавы, якая ўжо каторы час не існуе,— і калі нарэшце там зьявіцца Пагоня. Як паведамі загадчык агульнага аддзелу гарадзенскага аблвыканкама сп. Мікалай Шмыга, па закону на зьмену дзяржаўных сымболяў адведзена два гады. Вядуцца перамовы з гарадзенскім камбінатам мастацтва аб тым, каб быў зроблены й прымацаваны гэрб Рэспублікі Беларусь. На сёньняшні дзень такія паслугі каштуюць каля 10 мільёнаў рублёў. Але, як нас запэўнілі, у хуткім часе будынак будзе мець належны выгляд. Будзем чакаць, тым больш, што два гады, якія адведзены па закону, сканчаюцца крыху больш чым праз месяц.

## Яшчэ адно КПП

Адпаведна з рашэньнем штабу беларускага памежнага войска пры Гарадзенскім аэрапорце «Абухава» ствараецца памежная служба, якая мае намер замяніць аматарскія пасты міліцыянтаў на прафэсійныя.

Для працы памежнікаў і мытнікаў ужо зараз рыхтуюцца памяшканьні, завозіцца неабходнае абсталяваньне.

**Г. У.**

## Вось і скончыўся «Рым-IV»...

Ну, вось і скончыўся «Рым-IV». Што, твае спадзяваньні былі большымі? Ты ведаеш, сапраўды, мабыць, так. Успамінаюцца газэтныя здымкі з першага «Рыму», які адбыўся ў самім Рыме. Вечны горад. Сьляды паганскай архітэктуры (якое дзіўнае спалучэньне словаў!) — Калізей, тэрмы, разбураныя таксама палацы — побач з велічнымі хрысьціянскімі храмамі,— веравызнаньне, якое змагалася ў катакомбах і перамагло менавіта тут. Колішнія газэтныя здымкі: дактары А. Мальдзіс і А. Грыцкевіч, побач — др В. Кіпель з Новага Ерку, а з імі сам Папа Рымскі II.

І вось «Рым-IV», з якім адбылося нібы са сталіцамі алімпійскіх гульняў. Спачатку месцам правядзеньня быў нібы абраны Пінск, але адбылася канфэрэнцыя падалей ад паляшуцкіх інсінуацый — у Горадні. Што ж, яна нічым ня горш, а хутчэй наадварот. Вялікакняская сталіца, унівэрсітэцкі горад на скрыжаваньні трох дзяржаў, якія існавалі ў адной і перасталі існаваць калісьці менавіта тут, на «маўклівым сойме».

120 запрошаных навукоўцаў, экзатычныя краіны ў сьпісе. А ў выніку палова не прыяжджае. Ну, што ж, час распачынаць. Падзея адбываецца ў невялічкім камэральным тэатры лялек, муры якога збудаваны некалі А. Тызэнгаўзам. Непадалёк — абеліск на месцы ягонага палаца. Месца паміж елкамі, дзе стаяў стары Ленін (нехта прапаноўваў сюды ж помнік К. Каліноўскаму). Частка пляцу паміж старымі камяніцамі, якія з вялікай цяжкасьцю ўдалося назваць пляцам Тызэнгаўза й які ўсё адно гараджане, асабліва кіроўцы тралейбусаў ды аўтобусаў, абавязкова мянуюць «площадь Ленина». А яна й сапраўды побач, за домам віцэ-адміністратара, на засыпанай «Швэйцарскай даліне». Дзеля наданьня месцу максімальна рэальнага зьместу на пастамэньце стаіць ну папросту вельмі вялікі, як на 270 тысяч насельніцтва, аграмадны Ленін, адліты з формаў скульптара Азгура.

Не прыехаў др Ст. Скарына, не прыехаў паэт і Нобэльскі ляўрэат Ч. Мілаш. Хоць запрашэньні ўсім былі разасланы, й ніхто пісьмова не адмовіўся... Мабыць, і спадар Мілаш да апошняга моманту спадзяваўся, але папросту ня выбраўся ў Горадню. Як мне сказаў У. Пац, які прыехаў да нас з Варшавы, каб распавесьці пра канфэрэнцыю слухачам польскага радыё (у тым ліку — і беларускай праграмы),— ён ужо стары, усё бачыў і ўсё чуў, яму ня хочацца, напэўна, рабіць лішніх падарожжаў...

**(Працяг на 5-й стар.).**

## 1863—1993

Гарадзенскі гарвыканкам у сувязі з угодкамі паўстаньня 1863—64 гг. вырашыў зьмясьціць у горадзе дзьве мэмарыяльныя шыльды, прысьвечаныя гэтай даце. Выканкам будзе хадайнічаць перад Саўмінам аб дазволе на гэтыя шыльды.

На будынку чыгуначнага вакзала мяркуецца шыльда з наступным тэкстам: «2 (14) сакавіка 1863 года на Гарадзенскай чыгуначнай станцыі адбыўся бой паміж атрадам паўстанцаў гарадзенскай арганізацыі і царскім войскам». На доме № 7 па вул. Савецкай — адпаведна: «У гэтым доме ў 1863 годзе спыняўся кіраўнік паўстаньня Кастусь Каліноўскі й адбываліся паседжаньні Гарадзенскага паўстанцкага камітэта».

**(спадар).**

## Для нумізматаў, і ня толькі

25 чэрвеня ў Летувіскай Рэспубліцы быў уведзены ў абарачэньне літ, уласная нацыянальная валюта. Дакладней, літ вярнуўся пасьля паўвекавой адсутнасці. Як і любая іншая нацыянальная валюта, ён мусіць стаць ня толькі сымболем дзяржаўнасьці, але й надзейным сродкам умацаваньня эканомікі, а значыць, і незалежнасьці Летувы.

Замена часовых грашовых знакаў — «талёнаў» на літы адбудзецца з 25 чэрвеня да 20 ліпеня. Ва ўсіх крамах будуць прымаць як старыя, так і новыя грошы, рэшту ж мусяць выдаваць літамі. Талёны будуць мяняцца на літы ў прапорцыі 100 да 1. У абарачэньне ўводзяцца банкноты вартасьцю 100, 50, 20 і 10 літаў, таксама манеты вартасьцю 1, 2, 5 літаў і 1, 2, 5 цэнтаў.

Банк Летувы вызначыў афіцыйны курс у суадносінах з іншымі замежнымі валютамі. На 25 чэрвеня ён быў такі: 1 даляр ЗША — 4,5000 літа,

100 беларускіх рублёў — 0,2517 літа,

100 польскіх злотых — 0,0262 літа,

100 расейскіх рублёў — 0,4128 літа.

**В. С.**



# ПАЛІТЫКА.

## НАЗАД, ЯЧШЭ НАЗАД!

Тры дні ў канцы чэрвеня прыметна ўзбудзілі дрымотна-павольнае грамадскае жыцьцё на Беларусі. Відавочна, што ўсе назіралі за гэтай поўнай драматызму палітычнай барацьбой у парлямэнце. Хто супраць палітыкі С. Шушкевіча? Ці «зваліць» намэнклятурная большасьць «непаслухмянага» сьпікера?

Па-першае, гэткі варыянт разьвіцьця падзей ужо быў прадказаны раней. Пытаньне было толькі ў тым, калі гэта адбудзецца. Бо відавочна, што намэнклятура ніколі не лічыла С. Шушкевіча сваім і мірылася з ім толькі да той пары, пакуль ён будзе плыць у рэчышчы палітыкі ўрада. Крыху нечакана, што ў пракамуністычнай большасьці ўсё ж не хапіла (а мо хацелі толькі настрашыць?) галасоў, каб адправіць у адстаўку старшыню Вярхоўнага Савета. Безумоўна, гэта можна расцэньваць, як невялікую, але перамогу дэмакратычных сілаў.

Па-другое, зьдзівіла адкрытая атака на С. Шушкевіча «маладзечанскай тройкі». У чым тут справа? Вядома, што й раней маладзечанцы не вылучаліся палкай любоўю да старшыні, але ўсё ж займалі больш памяркоўныя пазіцыі, цяпер жа яны разам з блёкам «Беларусь» былі аднымі з галоўных крытыкаў яго курсу й на працягу ўсіх гэтых дэбатаў падкідвалі паленцы ў агонь.

Здаецца, што карані гэткіх паводзін трэба шукаць на знакамітым музычным фэстывалі, калі мільёны тэлегледачоў сталі сьведкамі гарачых пацалункаў прэм´ера й мэра «горада Сонца» на эстраднай сцэне. Ці ня там быў абмеркаваны сцэнар адхіленьня ад улады старшыні? Патрэбна была толькі зачэпка, якая й знайшлася. Магчыма, што энэргічным дэпутатам з Маладзечна становіцца ўжо цесна ў межах раённага цэнтру, а да выбараў ой як далёка. У выніку ж адстаўкі С. Шушкевіча можна было б прымераць касьцюм ня толькі сьпікера, але й, напрыклад, міністраў замежных і ўнутраных спраў. Відавочна, што супольнасьць блёкаў «Беларусь» і «Згода» магла б прывесьці да такіх вынікаў. Пакуль што не атрымалася, але не выключана, што палітычны саюз гэтых плыняў яшчэ праявіць сябе пад час прэзідэнцкіх выбараў, бо бяз В. Кебіча атрымаць перамогу ў гэтай барадзьбе маладзечанцам будзе цяжкавата.

Па-трэцяе, хто ўважліва сачыў за сэсіяй, ня мог не адзначыць тандэм М. Грынёў — А. Лукашэнка, да якога можа далучыцца яшчэ адзін «магілёвец» у асобе апальнага члена Прэзідыума Вярхоўнага Савета Д. Булахава. Не выключана, што й магілёўскія дэпутаты робяць прыкідку ў цяжкай гонцы за прэзідэнцкае крэсла.

Што ж тычыцца бразганьня дзьвярыма Д. Булахавым, то заўважу, што старшыня камісіі па заканадаўству робіць гэта не ўпершыню. Склалася такое ўражаньне, што ён толькі й чакаў зручнага моманту, каб пакінуць парлямэнт гэткім пакутнікам. Упэўнены, што ён пайшоў, каб зноў вярнуцца ў вялікую палітыку. Пасьля скандальнага дарожнага здарэньня гэта было больш выгодна зрабіць не добраахвотна, што назаўжды пахавала б усялякія надзеі вярнуцца на палітычны алімп, а па прычыне абразы з боку С. Шушкевіча.

Можна думаць, што сутычкі ў Вярхоўным Савеце яшчэ ня скончаны, бо намэнклятура не пагодзіцца з гэтым паражэньнем. Таму, як і прадказваюць астролагі, у жніўні-верасьні Беларусь, магчыма, чакае ўсплёск палітычнага жыцьця.

**І. ПРЫВАРОЦКІ.**

## У Летуву — толькі з візай за 20 даляраў

Як разьвіваюцца адносіны Летувы з суседнімі дзяржавамі? Намесьнік міністра замежных справаў В. Папірціс гавора, што адной з важнейшых задачаў у гэтай дзялянцы ёсьць дэмакрацыя й дэлімітацыя дзяржаўнае мяжы. Актыўныя кантакты ў гэтым пляне наладжаны з Беларусяй, каторая мае найбольш працяглую мяжу з Летувой. Тут, праўда, маюцца спрэчныя мейсцы, але, на думку намесьніка міністра, некаторымі невялічкімі пагранічнымі кавалачкамі можна будзе абмяняцца. Ён запэўніў, што ад гэтага тэрыторыя Летувы ня зьменшыцца. Адпаведная дамова з Беларусяй будзе падрыхтаваная на працягу некалькіх месяцаў і падпісаная, «магчыма, яшчэ ў гэтым годзе».

Пакуль няма дамоўленасьці адносна дакладнай марской мяжы Летувы з Крулявецкай вобласьцю й Латвіяй. Ад таго, дзе яна пройдзе, будзе залежыць велічыня марской эканамічнай зоны Летувы. Адносна наземнай мяжы з Латвіяй дамоўленасьць практычна дасягнутая.

В. Папірціс сказаў, што ў бліжэйшы час Польшчы будзе перададзены праэкт двухбаковага пагадненьня. У ім Летува мае намер выказаць свой пункт погляду пра падзеі, зьвязаныя з паходам гэнэрала Жэлігоўскага, бо «адсюль выцякаюць пэўныя прававыя наступствы, абавязкі й патрабаваньні». Усё гэта, па словах В. Папірціса, стане аб´ектам перамоваў. Дарадчык Ураду ў пытаньнях міжнародных адносінаў В. Вадапалас дадаў, што, ацэньваючы акцыю Жэлігоўскага, Летува імкнецца знайсьці прыймальны для абодвух бакоў варыянт. Праэкт дамовы ўжо ўзгоднены з прэзідэнтам, Сэймавым камітэтам замежных справаў. Польшча прадставіла свой варыянт дамовы раней.

В. Папірціс падцьвердзіў, што Летува мае намер увесьці візавы рэжым для грамадзян з краінаў СНД, застаецца толькі вырашыць, з якога моманту. Каб зрабіць гэта, неабходна ўзмацніць консульскія службы Летувы, што знаходзяцца на тэрыторыі краін СНД, тэрмінова адкрыць іх у Менску, дзе да гэтае пары няма пасольства Летувы. Акрамя таго, сітуацыя ўскладняе й транзыт Расея — Крулявецкая вобласьць, з-за каторага Летува ўзяла на сябе абавязкі, падпісаўшы дамову 1991 году.

На пытаньне «А. Р.», ці прадугледжваюцца якіясь абмежаваньні на ўезд у Летуву з Польшчы ў пэрыяд візыта Папы Рымскага В. Папірціс адказаў, што пакуль яшчэ не ацэненая нашая здольнасьць прыняць і рэгуляваць навалу пілігрымаў.

Канчатковае рашэньне ў гэтай справе будзе, бадай, за камісіяй па прыёму Папы, з улікам мясцовых магчымасьцяў.

Ва ўзаемаадносінах з Расеяй, гэтак жа, як і з краінамі Захаду, Летува, паводле словаў субяседніка, павінна пастарацца нэўтралізаваць іхны ўплыў. На просьбу «Л. Р.» удакладніць гэты выраз, В. Піпірціс сказаў, што Летува, інтэгруючыся ў агромністыя эканамічныя й палітычныя абшары, павінна ацаніць ступень верагоднасьці залежнасьці (праз гандлёва-эканамічныя сувязі, крэдыты й дамову) і пастарацца захаваць сябе як незалежную дзяржаву.

## Учора газавая камора, сёньня газавая камора. Галава ж баліць!..

**Як ужо паведамлялі, 25—26 чэрвеня ў Менску адбылася міжнародная канфэрэнцыя «Талерантнасьць і грамадзкія адносіны», наладжаная Беларускім фондам падтрымкі дэмакратычных рэформаў супольна з іншымі ўстановамі. Удзельнікаў прывітаў прадстаўнік ААН на Беларусі. Прапануем зацемкі з гэтае канфэрэнцыі.**

■

Прафэсар **А. Мальдіс** распачаў з таго, як кіраўніцтва Скарынаўскага цэнтра, які ён узначальвае, наведала паседжаньне таварыства «Русь» дзеля гутаркі пра беларуска-расейскія адносіны. «Гасьцінныя» гаспадары адразу абразілі іх: «так называемых белорусов придумали в 17-м году большевики». Са словаў дакладчыка вынікала, што ў падобнае сітуацыі засталіся б адны беларусы, талерантнасьць якіх з моцы даўно зрабілася кволасьцю. І яны сапраўды засталіся, каб паспрачацца. Мауляў, калі нас прыдумалі бальшавікі, навошта тады яны гэтак дбайна вынішчалі потым беларушчыну. А можа й напраўду, як той казаў, зрабілі «на сваю галаву»?

Наша цярпімасьць да іншых зрабілася абыякавасьцю да сябе, бо мы апынуліся ад канчатку 18 ст. на пагранічны двух макрарэгіёнаў, пад асіміляцыйным уплывам блізкіх да нашай моваў ды культур. Як напісала ў «Газэце Выборчэй» выпускніца Бельскага беларускага ліцэя Марыя Аліфер, досыць ужо нарадзіцца палякам, расейцам, немцам, а вось беларусам трэба стаць.

Беларусь даўно адчыніла дзьверы ў Эўропу, дзе ёсьць й дагэтуль, што трэба ўсьведамляць. Фр. Скарына ўзяў усё лепшае з Заходняй і Усходняй культураў. Ён думаў пра паядналньне народаў, быў талерантным у лепшым сэнсе, цярпімы нават да паганцаў, не заклікаў іх зьнішчаць, як іншыя.

Падарожнікі ў тыя часы дзівіліся, што ў нас за адным сталом маглі есьці сьвятары розных канфэсій. Тады мы былі моцныя сваёй цярпімасьцю. Потым нам навязалі комплекс ускрайнасьці: усходнія крэсы, паўночназаходні край. У Польшчы пачала выходзіць «крэсовая бібліятэчка» — кніжкі пра Слонім, Нясьвіж... У Лідзе існуе ансамбль «Крэсовяцы».

Нашая калісьці славутая талерантнасьць абярнулася адсутнасьцю нацыянальнай годнасьці, самасьвядомасьці, пра што яскрава сьведчыць навязаная сёньня нам дыскусія пра дзьве дзяржаўныя мовы. «Дык давайце ж усё больш і больш станавіцца беларусамі!» — заклікаў прафэсар Мальдзіс, перафразуючы выпускніцу беларускага ліцэю з Бельску ў Польшчы.

■

Рэдактар газэты «Беларус» з Нова-га Ерку др **Я. Запруднік** выступіў на тэму: беларуская талерантнасьць, убачаная з-за акіяну. Талерантнасьць мы перадусім маем у рэлігійным аспэкце. Але сьвет шматаблічны й складаны, ён зьмяняецца, й калі ўспрымаць гэта адмоўна, дык зьяўляецца глеба для канфлікту. Разьвязаньню канфліктаў у Амэрыцы аддаецца вялікая ўвага, выдадзены адпаведныя кніжкі, палітычная культура амэрыканцаў дазваляе папярэджваць і спыняць грамадзкія канфлікты...

Нашая краіна была абшарам гістарычнага змаганьня. Вось жыцьцёвы розум і падказваў нам, што заўсёды лепш перачакаць. Сядзімо на плоце й ня ведаем, куды скочыць. Мы бязхрыбетныя. Спадар Запруднік ехаў у Менск з Баранавічаў. У цягніку было задушна, усе пацелі, але ніхто не адчыніў вакна. Гэтак у звычайным прыкладзе выяўляецца наша прыцерплівасьць, у нас зашмат калектывізму.

Неталерантнасьць — бязкультур´е. Нам адмаўляюць у правох, але пры гэтым хочуць лічыць сябе культурнымі людзьмі. Такое немагчыма.

Пры будаваньні дзяржавы патрэбна аснова. Для беларускіх палякаў вызначальнай зьяўляецца рэлігія: калі ты каталік, дык адначасова, значыцца, й паляк. Мы ня можам рабіць вызначальнай мову, рэлігію або этнічнасьць. Але агульны назоўнік патрэбны. Каб пабудаваць нармальную дзяржаву, неабходна палітычна ўсьвядоміць сябе беларусам.

Амэрыканскі беларусіст Т. Бэрд працуе дарадчыкам пры радзе біскупаў, якая пастаянна ўдзяляе ўвагу таму, як пазьбегчы канфліктаў, напрыклад, у мяшаных сем´ях: як быць са споведдзю, хрышчэньнем дзяцей і г. д. А вось у Баранавічах сваякі спадара Запрудніка распавялі іншы выпадак. Калі раней яны сям´ёй хадзілі на Каляды і ў царкву, і ў касьцёл, дык цяпер новы ксёндз з Варшавы сказаў: калі ходзіш у касьцёл, дык у царкву не хадзі. Гэта прыклад недальнабачнага сьвятара. У сям´і пачаліся непаразуменьні: якому храму аддаць перавагу?

Нецярплівасьцю шматстайнасьці жыцьця ня зьменіш.

Каб пабудаваць сваё жыцьцё, нам трэба быць ня толькі больш мірнымі, але адначасова навучыцца «быць з хрыбтом».

■

Др **Ю. Хадыка** распавёў пра гістарычныя карані нашай талерантнасьці. Яны сягаюць 13 стагоддзя, калі пасьля татарскага нашэсьця ўтварылася ВКЛ, дзе суіснавала хрысьціянства з паганствам, а пазьней і іншыя рэлігіі ды нацыі. Статут замацаваў роўнасьць людзей усіх вызнаньняў. Рашэньні на Соймах прымаліся толькі аднагалосна, адзін голас усё касаваў, чаго не было больш нідзе. Нам трэба сёньня чэрпаць са свайго палітычнага вопыту, а не з амэрыканскага. На жаль, нашая талерантнасьць ператварылася ў рахманасьць. Сёньня пераважна гавораць аб правах асобнага чалавека, забываючыся аб правах грамадзтва. Ня можа быць гаворкі пра 2 дзяржаўныя мовы. Досыць разумець цярпімасьць як безпрынцыпнасьць ды згодніцтва.





# ГРАМАДЗТВА

## Вітаўт Кіпель у Горадні

**(Пачатак на 1-й стар.).**

групаў, нацыянальных слаёў, шляхты й г. д. Думаю, калі гэтыя канфэрэнцыі будуць прадаўжацца, мы выпрацуем агульныя высновы, якія ўвойдуць у падручнікі. Дзеці будуць ведаць, што ў ВКЛ быў гэтакі беларускі элемэнт, а гэтакі — польскі. Гэта, безумоўна, будзе спрыяць добрым узаемаадносінам паміж народамі.

**— Успрыманьне эміграцыяй беларускай дзяржавы ў мінулым і сёньня. Якая ў гэтым ёсьць розьніца?**

**В. Кіпель.** Беларуская дзяржава фармальна існуе два гады. Эміграцыя была проста захопленая 25 жніўня 1991 г. (я гавару пра амэрыканскую й канадзкую эміграцыю) тым, што Беларусь абвясьціла незалежнасьць. Эміграцыя падтрымоўвае дэмакратычныя сілы, вельмі цешыцца, што адбываюцца дыскусіі. Амэрыканская эміграцыя што можа — робіць, каб дапамагчы Беларусі.

Але нас трывожаць некаторыя моманты, якія існуюць на Беларусі. Мы лічым, што двухмоўе ня можа існаваць у нацыянальнай дзяржаве. Усе нацыі, якія жывуць на тэрыторыі Рэспублікі, маюць права на сваю мову, на свае школы, але дзяржаўная мова павінна быць адна. Гэтаксама эміграцыя затрывожаная адносінамі Вярхоўнага Савета да ваенных саюзаў — асабліва саюзу з Расеяй.

Амэрыканскія газэты, напрыклад, «Нью-Ёрк Таймз», якая падтрымала Беларусь, прысьвяціла некалькі перадавіцаў, калі Беларусь абвясьціла аб сваім нэйтралітэце, аб сваёй бяз'ядзернасьці. І раптам... гэткая лыжка дзёгцю — паведамленьне, што пачынаюць гутарыць аб вайсковым саюзе з Масквой.

**— Неўзабаве зьезд беларусаў сьвету. Ведаем, што зьезд арганізуюць афіцыйныя структуры. Беларускі народны фронт выступіў з крытыкай. Як адносіцца да зьезда амэрыканская эміграцыя?**



**В. Кіпель.** Амэрыканская эміграцыя падтрымоўвае Беларускі народны фронт, будзе ўдзельнічаць у паседжаньні палітычнай канфэрэнцыі. Але гэтаксама амэрыканская эміграцыя будзе прымаць удзел у гэтым зьезьдзе. Дзеля таго, што трэба нам дыскутаваць, не баяцца. Мы ведаем, што будуць афіцыйныя дакладчыкі. Мы ведаем, што будуць некаторыя складаныя моманты... Але калі нам будзе дадзеная магчымасьць гаварыць, мы будзем выказваць свой пункт гледжаньня, і гэты пункт гледжаньня будзе іншакшы ад уладаў, таму я ня думаю, што ўлады змогуць нас выкарыстаць у палітычных мэтах.

**— Як Вы ацэньваеце становішча эміграцыі ў Амэрыцы й беларусаў у Польшчы?**

**В. Кіпель.** Я на Беласточчыне быў два гады назад, пасьля падарожжа ў Менск. Беласточчына мне асабіста вельмі спадабалася, бо мы маем там вельмі шмат сяброў. У Польшчы мы сустрэліся з незразумелымі рэчамі: зьмяншаецца колькасьць вучняў у беларускамоўных клясах. Сімптомы нездаровыя, і эміграцыя тлумачыць гэта не адсутнасьцю ўзаемапаразуменьня паміж дзеячамі на Беласточчыне. Яны маюць свае разыходжаньні, але тым ня менш, трэба было б, каб гэты фронт быў адзіны. Эміграцыя, бязспрэчна, будзе падтрымоўваць Беласточчыну, таму што ў нас вельмі шмат людзей з гэтай зямлі.

**— Як Вы лічыце, якія характэрныя рысы беларусаў?**

**В. Кіпель.** Пагаворка ёсьць: сем разоў адмер і яшчэ ня вер. Дзесьці ўсярэдзіне беларус вельмі прыватны, упэўнены сам з сабой, але навонкі ён гэтага не выказвае. Мне здаецца, стагоддзі такога пераходнага становішча паклалі на беларуса рысу асьцярожнасьці, якая нам сёньня шкодзіць у прабіваньні й здабываньні поўных нацыянальных пазіцыяў.

Што да лідэра. Беларускі лідэр сягоньня не павінен быць асьцярожным. Ён павінен асьцярожна — разумна, але прадпрымаць крокі вельмі рашуча й вельмі станоўча. Я ўважаю, што ў пытаньні рэфэрэндума была зроблена несправядлівасьць. Патрэбная колькасьць людзей выказвалася за рэфэрэндум, і яго трэба было праводзіць.

**— А цяпер скажыце, калі ласка, колькі слоў для «Пагоні».**

**В. Кіпель.** Я кожнай беларускай газэце пажадаю, каб яна прадаўжала далей выходзіць і пашыралася, каб імкнулася стаць на базу пэўнай эканамічнай незалежнасьці.

Гутарыў **М. МЯЦЯВІЦКІ.**

---

У 1588 годзе Маскоўская праваслаўная мітраполія дамагалася падвышэньня свайго статуса да патрыярхату, адразу выставіўшы свае прэтэнзіі на Беларусь. У гэтых умовах была прынята канкрэтызаваная для ВКЛ Флярэнтыйская рэлігійная вунія. Вунія — самы каштоўны даробак беларусаў у талерантнасьць, яна спалучала праваслаўную й каталіцкую абраднасьці. Вунія вызначала самабытнасьць беларускай культуры.

Сёньня БНФ адмаўляе існаваньню адзінай дзяржаўнай царкве на Беларусі. Дзеля згуртаваньня нацыі варта спрыяць т м канфэсіям, якія прэтэндуюць быць беларускімі па сваім духу й зьместу.

■

Навуковец з Берасьця **Праневіч** тлумачыць талерантнасьць эўрацэнтрычнасьцю Беларусі. Талерантнасьць — філязофія дэмакратызму, філязофія выжываньня нацыі. Яе залатое правіла сьведчыць: не рабі іншым таго, чаго сабе не жадаў бы.

Мікола Гусоўскі пісаў пра міралюбнасьць зубра: не зачэпіш, ён не зачэпіць. Але ўжо тады цярпімасьць давалася часам нашым продкам у знакі. Прыкладам, немцы-слугі пачываліся ў нас гаспадарамі. Ф. Кміта-Чарнабыльскі пісаў, што край «рэжуць як аўцу». За ім бедаваў Мялешка: «Своя костка, але мясам чужым абрасла і сьмярдзіць».

Тое ж самае мы назіраем і сёньня. Адзін наш палітык выступіў у Міры, а потым два месяцы пісаў у Маскву, выбачаўся. Атрымаўшы спагадны адказ, на радасьцях расплаціўся нашым сувэрэнітэтам.

Нацыянальная самасьвядомасьць павінна грунтавацца на філязофіі карэннай нацыі, але складацца з дарobку ўсіх народаў Беларусі. Нацыянальнай згоды ня можа быць, калі не давесьці да нормы духовае жыцьцё асноўнай нацыі. А пакуль што ў нас сьвядома кансэрвуюць у сьвядомасьці беларуса ягоную паслухмянасьць. Дэстабілізуючым фактарам на Беларусі зьяўляецца не нацыяналізм, а нацыянальны нігілізм.

■

Сп. **Нехамэс** з інстытуту незалежных дасьледаваньняў сцьвердзіў: нельга атаясамліваць колішнюю талерантную праваслаўную царкву з сёньняшняй. Гэта розныя канфэсіі. Беларуская праваслаўная царква скончылася ў канчатку 17 стагоддзя, калі адыйшла да Маскоўскага патрыярхату, які праводзіў у ВКЛ падрыўную палітыку.

РПЦ прыйшла да нас з захопам Беларусі Расеяй. Пазьней яна падтрымлівала камуністычны рэжым. Як нам ставіцца да царквы суседняй дзяржавы? Ці можна быць талерантным да царквы, якая праводзіць экумэнічную палітыку гэтай суседняй дзяржавы? Сацыялягічнае апытаньне беларускіх каталікоў паказала, што 89,9 працэнта з іх адмоўна ставіцца да РПЦ на Беларусі. Сярод прычынаў гэтага — яе лідэр, а таксама падтрыманьне ёю чарнасоценных арганізацый. На словах нібы за Беларусь, а на справе — за «Русь адзіную».

1000-годдзе хрышчэньня Беларусі са згоды ўладаў было зроблена сьвятам праваслаўя, хаця была рэдкая нагода да паяднаньня дзьвюх асноўных хрысьціянскіх канфэсій, якія тысячу гадоў назад існавалі як адна.

Характэрны прыклад. Калі раней маладзёжныя суполкі накшталт «Талакі» імкнуліся папрацаваць на аднаўленьні касьцёлаў і цэркваў (Віцебск), дык цяпер да апошніх у іх паявілася нежаданьне. Гэта тлумачыцца проста: касьцёл пачаў паварочвацца да беларушчыны.

Як жа захаваць мір, калі ў Горадні праваслаўныя захапілі храм, а ў Менску каталікі змагаюцца за касьцёл з тэхвандыстамі? Калі ў лістападзе адныя рыхтуюцца да ўгодкаў сьвятога Ісафата Кунцэвіча, а іншыя жадаюць адзначыць гадавіну «паўстаньня супраць вуніі?» Для пачатку хаця б неабходна зрабіць напраўду роўнымі паміж сабой праваслаўе, каталіцтва й вунію.

■

**Л. Ліпень** сцьвердзіў, што рэлігійныя адносіны на Беларусі, пачынаючы з Гарадзенскага прывілея, які даў каталікам кароль Ягайла, перасталі быць талерантнымі. Пра гэта ж сьведчыць і сумная гісторыя з рэфармацкімі зборамі, якіх у нас было ў 16-м стагоддзі каля 300. Тады яшчэ захоўваўся прынцып «ня рушыць іншых храмаў». Але пазьней усе гэтыя зборы былі зьнішчаны. А эўрапэйскі вопыт, між тым, сьведчыць, што тамака, дзе перамаглі рэфарматы, людзі жывуць добра.

Адной з прычын, што спрыяла разбурэньню Рэчы Паспалітай, былі рэлігійныя канфлікты. Сёньняшні міф пра талерантнасьць — штучны. Нецярпімымі былі езуіты, казакі забівалі ўсіх, хто ня грэцкай веры.

Сёньня ў Польшчы 5 тысяч нашчадкаў рэфарматаў, а на Беларусі — 20 чалавек.

■

Народны дэпутат Беларусі, старшыня Сойму БНФ **З. Пазьняк.**

Нашая краіна кіравала прынцыпам кансэнсусу (лібэрум вэта). Прынцып свабоды быў дaведзены да мэханічнага ўжываньня. А талерантнасьць, нажаль, прывяла да рабства; прымірэньне са злом — зьява амаральная.

Першаснай ёсьць ідэя, а не закон прыроды, чалавек стрымлівае сваю прыроду дзеля мэты. Падставы талерантнасьці сфармуляваны Хрыстом і выпрабаваны хрысьціянскім сьветам.

Пасьля апошняй вайны ў Эўропе ўсталявалася амэрыканскае паняцьце правоў чалавека. Першаснымі лічацца правы асобы, а не нацыі. Эўропа дасягнула высокага ўзроўн дабрабыту, але мір пачынае зьнікаць. Мільёны сваіх беспрацоўных пачынаюць саступаць месца таннай працоўнай сіле з Усходу.

Тэзіс правоў чалавека абарочваецца супраць чалавека. Вынік той жа, як і пры культываваньні «лібэрум вэта». Узьнікаюць успышкі нацыянальных канфліктаў, у некаторых краінах да ўлады могуць прыйсьці фашысты. А Эўропа тым часам цешыцца «маастрыхцкімі фантазіямі й падобнай палітычнай бэлетрыстыкай»...

БНФ выступае за парытэт правоў нацыі й правоў чалавека.

■

Др **Л. Лыч** прадстаўляў Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына».

Сёньня паняцьце талерантнасьці амаль невядома людзям. Усё горшае ёсьць і ў беларусаў, а асаблівай талерантнасьці няма. Абыякавасьць і нігілізм — вынік уплыву двух буйных суседніх народаў — рускага й польскага. Адсюль — нашая асьцярожнасьць, рахманасьць, безхрыбетнасьць. Гэта праявы звычайнага страху, а не цярпімасьці.

Пасьля вайны квазіталерантнасьць нас ужо не ратавала, а вяла да поўнага заняпаду, этнічнай сьмерці. Мова вынішчалася, й усе з гэтым згаджаліся. Некаторыя народы не жадалі мірна сузіраць уласную асіміляцыю, зьліцьцё ў адную савецкую нацыю. Мы ж былі паслухмяныя Маскве цалкам.

У рускіх і палякаў існуе па адной дзяржаўнай мове. Адносна меншасьцяў яны выяўляюць разумны мінімум талерантнасьці. Чым лепш у нас будуць нацыянальныя справы, тым лепш будзе й для меншасьцяў. Прыкладам таму — 20-я гады.

**(Працяг на 4-й стар.).**

# ГРАМАДЗТВА. КАНФЭСІІ.

## Каўбасы, а не беларускай мовы!



**Публікацыя «Нас трывожыць лёс Гарадзенскага унівэрсітэта» у «Народнай газеце» ад 4 чэрвеня 1993 года выклікала некаторы рэзананс, прынамсі ў Горадні. Адна з гарадзенскіх газэт нават выказала меркаваньне, што да унівэрсітэта набліжаюцца, нарэшце, перамены. Яна, мабыць, не магла дапусьціць і думкі, што й на Беларусі могуць зьявіцца камікадзэ, бо публікацыя тая якраз і была прадыктавана марнасьцю спадзяваньняў на перамены.**

**Чытачам «Пагоні», якія заўважылі гэтую публікацыю, было б, відаць, цікава даведацца і аб тым, як жа ўсё-такі адрэагавала унівэрсітэцкае кіраўніцтва на гэтую, так актуальную сёньня для беларускай вышэйшай школы публікацыю. Рэагаваньне было надзвычай апэратыўным. Ужо 11 чэрвеня адбылося пашыранае паседжаньне Вучонай Рады унівэрсітэта па гэтым пытаньні.**

РЭКТАР унівэрсітэта Бадакоў А. В., ён жа вядучы сходу, прапанаваў даклад назначанай ім жа камісіі. Калі ж старшыня камісіі, былы сакратар парткама Віктар Таранцей, абвясьціў яе склад, дык усім стала ясна: хвалявацца няма чаго, гэтыя хлопцы не падвядуць. У камісіі плённа папрацавалі яшчэ два былыя сакратары унівэрсітэцкага парткама й былы загадчык агульнага аддзела абкама. Астатнія камісанты былі ў сваёй падаўляючай бальшыні членамі гэтага парткама. Сапраўды, час спыніўся перад непрыступнымі сьценамі Гарадзенскага унівэрсітэта.

З двух непартыйных членаў камісіі адзін не пагадзіўся з высновамі даклада й выказаў сваё асобае меркаваньне, якое практычна пацьвердзіла рацыю аўтараў артыкула. Да якой жа высновы прыйшоў «партийный райком в действии?» Да адваротнай! На чым грунтуецца такая выснова?

Кідаецца ў вочы гэніяльны, бо просты, прыём: пішуць, скажам, аўтары артыкула пра які-небудзь недахоп у рабоце рэктарата, а ў дакладзе пералічваецца тое, што зроблена. Нудны пералік стварае ўражаньне, што справы йдуць якраз наадварот. І так па ўсіх пазіцыях.

У выступленьнях пры абмеркаваньні часта ўжываўся вельмі стары й выніковы прыём кантраснасьці: у пачатку нуднае апісаньне свайго цяжкага дзяцінства, затым — пераход да ўзьнёслага пераліку сваіх дасягненьняў і, нарэшце, пафасная падзяка... Ну, тут, шаноўны чытач, вы памыліліся, бо дзякавалі не савецкай уладзе, не роднай камуні..., цьфу, прабачце, а паважанаму рэктару. Ва ўсіх выступленьнях абавязкова прысутнічала й другое кантраснае параўнаньне: якія «бякі» аўтары артыкула й які харошы чалавек Аляксандр Васільевіч.

ВЯЛІКІЯ арыгіналы працуюць ва ўнівэрсітэце. Тры з іх невядома навошта вінавацілі злашкодны камуністычны рэжым у тым, што яны, беларусы, развучыліся роднай мове, а адзін абвінаваціў гэты рэжым і ў тым, што сам ён думае да гэтага часу па-савецку і, пэўна, ужо не навучыцца інакш. Тры выступоўцы, у тым ліку адзін бадай што 90-гадовы акадэмік, паабяцалі вывучыць беларускую мову «з гадамі», і аптымізм гэты нямала пазабавіў публіку ў зале.

Адзін прапанаваў учыніць «суд чести», але чамусьці толькі над адным з падпісантаў, ён жа ўраўняў нацыяналізм з фашызмам, маючы на ўвазе, пэўна, што такі артыкул маглі напісаць толькі ярыя нацыяналісты, чытай: фашысты, а сам ён, значыць, гэройантыфашыст. Другі зазначыў, што вельмі дрэнна рабіць так, як зрабілі аўтары артыкула: «Сначала сор из избы выносим, а потом начинаем мыть полы». Па яго логіцы трэба было б, пэўна, рабіць наадварот. Ён жа сьцьвярджаў, што Гарадзенскі унівэрсітэт — сусьветна вядомая ўстанова, у чым, канешне, меў бы рацыю, калі б рэктар ГДзУ або міністр адукацыі РБ падалі заяўку на месца ў кнізе рэкордаў Гінэса: пэўна ж нідзе больш няма іншага такога унівэрсітэта, у якім бы працавала столькі выкладчыкаў, што не валодаюць мовай, на якой павінны выкладаць. Трэці прапанаваў параўноўваць лічбы нацыянальнага прадстаўніцтва сярод выкладчыкаў унівэрсітэта толькі з гарадзкім, а не разам з сельскім насельніцтвам, бо рускія, маўляў, жывуць пераважна ў гарадах, а беларусы — люд вясковы, й тады, на яго думку, усё будзе ў парадку.

Калі разьвіць гэтую лёгіку далей, то скора трэба будзе для беларусаў арганізоўваць рэзэрвацыі ў сельскай мясцовасьці. Гэты ж прамоўца лічыць, што лёзунг артыкула заключаецца ў трох словах: «Чемодан, вокзал, Россия». Дзіўная лёгіка, а прычына — усяго толькі тое, што гаспадарбеларус захацеў спаць не на саломцы, а пры ўласнай жонцы... Яшчэ адзін выступовец, дэкан факультэта, заявіў, што ад перахода на беларускую мову не прыбавіцца ні мяса, ні каўбас. Вось гэта прарок дык прарок! Як далёка бачыць! Адна сімпатычная доктарка навук, дэкан факультэта, так была абражана ўчынкам аўтараў артыкула, што на вышуканай беларускай мове заявіла, што ёй сорамна, што яна беларуска...

ПРАМОЎЦЫ зацята спаборнічалі ў нагрувашчваньні адмоўных эпітэтаў, характарызуючы артыкул і яго аўтараў, якія «поставили себя вне коллектива» — ах, мілыя, нядаўнія часы! І калі, нарэшце, прагучала заява, што «ученый совет оказывает слишком большую честь, обсуждая эту статью, потому что это обыкновенный донос на ректора Бодакова», і была яна сустрэта воклічамі ўхвалы й апладысмэнтамі, трое з аўтараў артыкула, справядліва памеркаваўшы, што ў такой абстаноўцы выказваць свае думкі ня мае ніякага сэнсу, усталі й пад зьдзеклівыя апладысмэнты публікі пакінулі залу. Аўтары, якія засталіся ў зале і ўсё-такі выступілі, ня маглі ні пераканаць публіку, ні пераадолець дэманстратыўнай варожасьці.

Нарэшце была прынята рэзалюцыя, аўтары якой абураліся, асуджалі й г. д. Поўную пафасу прамову таварыш рэктар закончыў завярэньнем публікі ў тым, што ён будзе змагацца й надалей як з левым, так і з правым экстрэмізмам. Публіка сустрэла гэтую заяву з задавальненьнем, бо яна ведала, што экстрэмізм — гэта ўсё, што адхіляецца ад гэнэральнай лініі камуністычнай, на жаль, яшчэ жывой, тэорыі й практыкі.

Што мяне самога больш уразіла, дык гэта саўковая шчырасьць усіх выступоўцаў. Яны шчыра ганілі таталітарны рэжым, шчыра дзякавалі рэктару за тое, што той ім не перашкаджаў працаваць і абараняць дысэртацыі (а мог жа), шчыра лічылі, што важныя дасягненьні, а не мова, шчыра не маглі даравать двум аўтарам артыкула іх адступніцтва, бо адзін выкладаў некалі марксісцка-ленінскую філасофію, а другі — адпаведна літаратуразнаўства, шчыра адчайваліся перад непасільнай для іх інтэлекту задачай вывучэньня й авалоданьня беларускай мовай... Шчыра ненавідзелі аўтараў артыкула, якія так гвалтоўна парушылі іх душэўны спакой...

**Міхаіл ПАТРЭБА,**
**выкладчык Гарадзенскага унівэрсітэта імя Я. Купалы.**

## Учора газавая камора, сёньня газавая камора. Галава ж баліць!..

**(Пачатак на 2-й і 3-й стар.).**

Сёньня беларусы Гарадзеншчыны ня лепш пачуваюцца за мясцовых палякаў, у якіх ёсьць тыл — Польшча, чаго ў беларусаў няма. Цяжкасьці ў нацменшасьцяў ёсьць таму, што ў саміх беларусаў існуюць тыя ж праблемы.

■

**С. Пешаў, Македонія.**

Македонцы за сваю незалежнасьць змагаюцца мірна. У 2-х-мільённай па насельніцтву краіне 60—65% складае славянскі праваслаўны народ македонцы. Праблему стварающь этнічныя албанцы, якіх 25%. Есьць таксама цяжкасьці і з сербамі, а асабліва з грэкамі. Рэлігійная талерантнасьць мае вялікае значэньне для македонцаў.

На яго думку, сёньня ў былой Югаславіі адбываецца рэлігійная вайна. Бяда ў тым, што былыя камуністы перакінуліся ў нацыянал-сацыялістаў. Белградскае тэлебачаньне працуе сёньня, нібы гэбэльсаўская машына прапаганды... На Беларусі таксама, аказваецца, існуе манаполія на «мас мэдыя».

■

Прафэсар Карлавага унівэрсітэта ў Празе **В. Жыдліцкі.** Выкладае беларускую літаратуру, перакладае яе на чэшскую мову.

Талерантнасьць — этнічная катэгорыя, а грамадзкія адносіны — справа палітычная. Талерантнасьць надае прагматычнай палітыцы, часам амаральнай, этычнае вымярэньне. «Этычную» палітыку якраз намагаецца рабіць прэзідэнт В. Гавэл.

На Беларусі паўстае пытаньне: каму быць талерантным? Меншасьці гавораць, што іх абмяжоўваюць. А як было й ёсьць з карэннай нацыяй?

У Чэхаславаччыне былі іншыя, чым у СССР, традыцыі. Славак у Празе размаўляў па-славацку, а чэх спрабаваў яму на славацкай же мове адказваць. У 1918 годзе ў славакаў не было сваёй інтэлігенцыі, яе замянілі чэхі.

Сёньня ў Славакіі ўмацаваўся нацыяналізм. Гэта справа нармальная, абы ён ня быў экстрэмісцкім. Трэба, каб моцны быў да слабейшага талерантным.

Пакуль што мы бачым прыклад эўрапэйскага «разводу» паміж Чэхіяй і Славакіяй...

■

Др **Чэлядзінскі** гаварыў на вельмі надзённую тэму — адсутнасьць канцэпцыі замежнай палітыкі Рэспублікі Беларусь.

Наша грамадзкая сьвядомасьць не прывыкла да выхаду Беларусі на міжнародную арэну. Рэспубліка Беларусь тэрытарыяльна больш за такія эўрапэйскія краіны, як Бэльгія, Галяндыя, Ірляндыя, Швэйцарыя, Грэцыя, Вэнгрыя, Чэхія, Славакія ды іншыя. Мы можам і павінны праводзіць выніковую замежную палітыку. Аднак дагэтуль знешнепалітычная культура не сфармавалася, яскравы прыклад — абмеркаваньне праблемы нэйтралітэта ў ВС.

Ніхто ў нас не распрацоўвае канцэпцыі замежнай палітыкі. Суседзі ўжо маюць дасьледчыя інстытуты ў гэтай галіне, дыпламатычныя школы й акадэміі. Нас прызналі ўжо больш за 100 краін, а мы пакуль што нават не займаемся прагназаваньнем сваіх магчымых замежных ініцыятыў.

Разлом Расеі самым пачварным чынам уплывае на нашу вонкавую палітыку. Распалася імпэрыя. Пара мець уласную лінію, умела разыгрываць ядзерную карту. Няма стратэгіі дзеяў і ў Цэнтральнай Эўропе, хоць відавочна, што Польшча й Славакія — нашы натуральныя саюзнікі. Нам трэба абавязкова вывучаць вопыт Швэцыі й Фінляндыі. Трэба думаць не пра дружбу, а пра інтарэсы, дзейнічаць прагматычна: каб усе ведалі, што мы будзем супрацоўнічаць з усімі, хто будзе нам выгодным.

■

Народны дэпутат Беларусі **Я. Новікаў** прадстаўляў Беларускую лігу правоў чалавека.

Улады вядуць зручную для сябе гульню на талерантнасьці народа. Але нас затанна купляюць, гладзячы па галоўцы: маўляў, беларусы — самы памяркоўны народ. Ні аднаму народу не ўдалося яшчэ адседзецца за чужой сьпіной.

Як можна быць талерантным да Гулага, Чарнобыля?! Скасаваны рэфэрэндум, растаптана права. Беларусь фактычна перастала быць рэспублікай.

Прайшло два гады, а народ нічога ня мае, улады не жадаюць яму нічога даць, а толькі падхвальваюць за памяркоўнасьць. Аднак без прыватнай уласнасьці няма свабоды.

**Адныя ўдзельнікі тлумачылі беларускую талерантнасьць эўрацэнтрычным становішчам краіны, нават прыродай і кліматам. Іншыя амаль адмаўлялі ўсякую талерантнасьць. Такім чынам, было над чым задумацца й паразважаць.**

**Усе, у тым ліку й прадстаўнікі нацыянальных меншасьцяў, сыходзіліся ў тым, што дзеля посьпеху нашай дзяржаўнасьці нам патрэбна беларуская палітычная, а ня толькі нацыянальная сьвядомасьць. Прыемна, што апошнія рашуча выказваліся за адзіную дзяржаўную мову й у большасьці прамаўлялі па-беларуску. Ня было толькі рускіх прадстаўнікоў, але яны сябе, мабыць, меншасьцю не лічаць, бо, як нам ужо вядома, «белорусов придумали в 17-м году большевики»...**

**Калі я напісаў загаловак да гэтых зацемак, дык раптам усьвядоміў, што апошняя фраза старой беларускай показкі пра «газавую камору» мае ў сабе аптымістычны пачатак. Раней мы над гэтым неяк не задумваліся.**

**С. АСТРАВЕЦ.**





# Вось і скончыўся «Рым-IV»

(Пачатак на 2-й стар.).

А шкада, бо ён напярэдадні быў не ў далёкай Амэрыцы, а гэтак блізка. Прыехаў разам са сваім амэрыканскім сябрам, таксама паэтам і Нобэльскім ляўрэатам І. Бродзкім, якога запрасіў Шлёнскі (Сілезскі) унівэрсітэт у Катавіцах, каб надаць яму тытул доктара «honoris causa». І. Бродзкі прамовіў па-ангельску (бо на расейскую мову ў палякаў «алергія»), падзякаваўшы польскаму народу «за зьнішчэньне самага вялікага зла, якое спасьцігла чалавецтва,— камуністычнай сістэмы».

Я канешне разумею: побач Кракаў, але ж самі Катавіцы! Гэта ж накшталт нашага Наваполацку. Там жа дыхаць няма чым. Не, прапануй наш унівэрсітэт Ч. Мілашу «honoris causa», ён ня змог бы адмовіцца. А такая падзея, дарэчы, адбылася ў дні «Рыма-IV» і ў нас. Шкада, не дадумаліся: Нобэльскія ляўрэаты наш горад яшчэ не наведвалі, хіба інкогніта. Вось ляўрэаты Сталінскай, пераназванай пазьней у Ленінскую прэмію, бывалі. Праездам, канешне.

Што мяне найболей зьдзівіла на канфэрэнцыі? Тое, як летувіс, гвалтуючы сваё неславянскае вымаўленьне, выступаў толькі па-польску (праўда, інтэрв'ю Беларускаму тэлебачаньню ён ласкава даў па-расейску). Мне падумалася тады: пры цяперашнім стане беларускай мовы польская як найлепш адпавядае для зносінаў у нашым рэгіёне... Сумежжа, а ў сярэдзіне — краіна Дзукія.

Спадарыня В. Рыч з Лёндану сказала мне: я бачыла вашу газэту «Пагоня», мне спадабалася, што яна зьяўляецца рэгіянальным аглядам. Будучыня за рэгіёнамі... Яшчэ 20 год назад яна бачыла карту Эўропы, створаную «зялёнымі», на якой ня было дзяржаў, а толькі назвы народаў, народнасьцяў і рэгіёнаў. Мазуры, Палесьсе... Спадарыня В. Рыч з гонарам паказала пячатку з Пагоняй у сваім пашпарце, на якой значылася: «Консульскае агенцтва Рэспублікі Беларусь». Праўда, праз гэтую пячатку ўзьніклі праблемы на польска-беларускай мяжы ў Тэрэспалі. Рэч у тым, што агенцтва дзейнічае нядаўна — ад 1-га чэрвеня. Дарэчы, памяшканьне для яго выдзяліў адзін лёнданскі беларус — у вялікім доме, які яму належыць.

Апроч узнагароджаньня званьнем ганаровага доктара Гарадзенскага унівэрсітэта трох навукоўцаў, у ліку якіх і дырэктар Беларускага інстытута навукі й мастацтва ў Новым Ёрку др В. Кіпель, у горадзе адбылася яшчэ адна нябудзённая падзея. Былую базыльянскую царкву асьвяціў сам мітрапаліт Філярэт. Мясцовыя вуніяты выставілі пікет. Уладыку, відавочна, непрыемна было бачыць пікетчыкаў. Дарэчы, на месцы дзяжурыў аўтобус з амонаўцамі. Спадзяюся, што яны тамака былі, каб абараніць жменьку пікетчыкаў, а не наадварот — як было заведзена да жніўня 1991-га года? Бо, напрыклад, адзін функцыянерчык кінуў на адрас пакрыўджаных вуніятаў шчыры папрок: раней вы змагаліся з намі, камуністымі, а цяпер — з праваслаўнымі. Сьвятая прастата!

Ну, аднак усё абыйшлося мірам. У беларусаў інакш і не бывае. Адно назаўтра, калі ў храмах адбыліся ў рамках «Рыма-IV» набажэнствы за мірнае сужыцьцё суседніх народаў, надта ж бедавала спадарыня Рыч: каталікі пайшлі ў касьцёл, праваслаўныя — у царкву, а ёй, вуніятцы, не было дзе падзецца.

Карацей, Чэслаў Мілаш не прыехаў. Не давялося мне паказаць яму «Пагоню» з урыўкамі з яго дзёньнікавай кніжкі «Год паляўнічага», якія мы зьмясцілі ў беларускім перакладзе.

І яшчэ адна асаблівасьць. Разпораз успамінаючы югаслаўскую вайну, удзельнікі канфэрэнцыі згаджаліся: на сумежжы неабходна абгаварыць усе праблемы й крыўды, каб не даходзіла да горшага. «Рым» патрэбны. Нездарма ж яму патрануе сам Ян Павел II.

У сьценах тэатра Тызэнгаўза адбываўся «Рым» чацьвёрты, у першы й апошні раз. А горад жыў па-свойму: купляў хлеб і каўбасу, гандляваў, абменьваў валюту...

**П. ГРЭЦКІ.**

## Беларускія памежнікі замест расейскага флёту

З кожным днём у Пінску усё болей і болей вайскоўцаў у зялёнай памежнай форме. На месца новай дыслакацыі прыбываюць афіцэры, прапаршчыкі й жаўнеры новай адзінкі беларускага памежнага войска.

Новы памежны атрад, якому нададзены назоў «Пінскі», разьмесьціцца ў кашарах былога расейскага ваенна-марскога цэнтру. Зараз ідзе перадача маёмасьці цэнтру на патрэбы беларускіх памежнікаў.

Дарэчы, Пінскі памежны атрад будзе ахоўваць паўднёвую мяжу ад Берасьця да Гомлі.

**Г. У.**

## Спозьненая індэксацыя

Апошнія тыдні ў Гарадзенскіх ашчадных касах шматлюдна ад ранку да вечара. Але дзіўнага ў гэтым нічога няма. Ліпень — той месяц, калі стала магчымым атрымаць індэксацыю па ўкладах, чым не прамінулі скарыстаць гарадзенцы.

Як ня дзіўна, але разам з індэксацыяй укладчыкі закрываюць свае рахункі.

Дарэчы, індэксацыя на ўклады, якія зроблены да 1 студзеня 1991 года на рахунак звыш тысячы й болей, складае чатыры тысячы рублёў, на ўкладах да тысячы рублёў выдаецца ў чатырохразовым павелічэньні.

**Г. У.**

# Спрэчка пра кляштар

## Паміж цэрквамі й паміж дзяржавамі!

**Праўдападобна, што адной з тэмаў распачатага сёньня візыту ў Менску, візыту прэзідэнта Леха Валэнсы на Беларусь, будзе спрэчка аб вяртаньні праваслаўнага кляштара ў Супрасьлі пад Беластокам. На яго прэтэндуюць тры царквы: праваслаўная, грэка-каталіцкая й рыма-каталіцкая.**



ГЭТЫ кляштар, які ад 1923 г. належыць да дзяржаўнага скарбу, мае для польскіх вызнаўцаў праваслаўя падобнае ж значэньне, як для каталікоў Ясна Гура.

Пад час леташняга візыту ў Польшчу прэзідэнт Беларусі Станіслаў Шушкевіч прасіў Леха Валэнсу вярнуць кляштарныя будынкі праваслаўным, якія ў Польшчы ў бальшыні беларусы. Пра вяртаньне Супрасьлскай лаўры прэзідэнта Валэнсу прасіў таксама япіскап праваслаўнай Беластоцка-гданьскай эпархіі Сава.

Як нам стала вядома з неафіцыйных крыніц, шэф канцыляры Рады міністраў Ян Марыя Ракіта на мінулым тыдні выслаў да новага беластоцкага мітрапаліта Станіслава Шымецкага ліст з просьбай, каб рыма-каталіцкі касьцёл адмовіўся ад прэтэнзій на кляштар у Супрасьлі. Дзеля сатысфакцыі каталікам выдзелена 400 млн. злотых на рамонт касьцёла ў Супрасьлі.

Яшчэ раней, 22 сакавіка, на пасяджэньні супольнай камісіі ўраду і епіскапату ўрадавы бок папрасіў прадстаўнікоў касьцёла забраць з маёмаснай камісіі просьбу аб перадачы кляштарнай нерухомасьці ў Супрасьлі каталікам. Прозьбу падаў тадышні беластоцкі мітрапаліт Эдвард Кісель. Прадстаўнікі епіскапату паабяцалі гэта зрабіць, але дагэтуль ня споўнілі абяцанкі.

Рыма-каталіцкі касьцёл мае юрыдычнае права на вяртаньне кляштару ў Супрасьлі, бо ў 1923 г. дзяржава адабрала яго ад праваслаўных і аддала каталікам. Праваслаўныя аднак лічаць, што гэта было зроблена ва ўмовах рэпрэсій адносна Царквы. Лічыцца, што маральнае й гістарычнае права на іхнім баку.

Кляштар быў фундаваны праваслаўным родам Хадкевічаў. Дазвол караля Аляксандра Ягелончыка на яго пабудову быў зацьверджаны Канстантынопальскім патрыярхам. У 1498—1614 гг. ён належаў праваслаўным, потым вуніятам (1614—1838) і зноў праваслаўным (1838—1923).

Пасьля Другой Сусьветнай вайны праваслаўным вярнулі царкву сьв. Яна Тэалёга й руіны вялікай, узарванай немцамі царквы Зьвяставаньня найсьвятой дзевы Марыі, а таксама адзін з кляштарных будынкаў. На іхнюю думку, аднак, скончыць спрэчку дапаможа толькі вяртаньне ўсяго кляштара, займанага цяпер сьвецкімі ўстановамі.

На Беласточчыне праваслаўныя складаюць 40 працэнтаў насельніцтва.

**Гжэгаш ПОЛЯК,**
**«Газэта Выборча», 28.06.93.**

ЯК бачым, пытаньне са спрэчнымі кляштарамі ў палякаў і ў нас вырашаюцца па-рознаму. Ва ўмовах рэпрэсій адносна Вуніі гарадзенскі Базыльянскі кляштар быў у 1843 г. аддадзены Рускай праваслаўнай царкве. Сёньня ўлады зноў перадалі яго пануючай на Беларусі царкве. Гавараць пра «маральнае й гістарычнае права» не даводзіцца...

Што ж датычыць таго, ці размаўлялі Станіслаў Шушкевіч з Лехам Валэнсам пра Супрасьльскі кляштар, дык нам гэта невядома. Нашаму шаноўнаму старшыні ВС было асабліва не да кляштара. Спадар Валэнса, безумоўна, адчуў хісткасьць становішча свайго калегі. Візыт польскага прэзідэнта мог бы ўмацаваць пазыцыі Ст. Шушкевіча, але ж не. На яго тут жа накінуліся камуністычныя дэпутаты. Яны прагнуць забараніць яму ехаць у канцы ліпеня «прадавацца» капіталістам у Вашынгтон, а замест гэтага хочуць прымусіць накіравацца ў Маскву, каб лішні раз паклясьціся крамлёўцам у вернападданстве й запэўніць: вылізаўшы пяткі, мы вам яшчэ штосьці выліжам. Нас пра тое ня просяць, але ж нам самім гэта карціць зрабіць...

З гэтае прычыны выклікае шчырае непаразуменьне зьезд эміграцыі, які адбудзецца ў падобнай палітычнай атмасфэры ў Менску. Хіба ўлады спадзяваліся аднаго: каб нагледзеўшыся на гэткі янычарскі шабаш, эмігранты не маглі б адплявацца да самае Амэрыкі.

Абапершыся на ўрад, Лех Валэнса распусьціў Сойм. Станіслаў Шушкевіч ня можа абаперціся на ўрад і ня можа распусьціць ВС. У гэтым яго ная трагедыя.

# ЭМІГРАЦЫЯ

## Лісты з Сыднэя

Калі змрочнай лютаўскай ноччу 1942 года жыхароў невялічкай палескай вёскі Малая Вулька абудзіў магутны голас рэпрадуктара «Катерина, Марина вставай, не пугайся, на работу в Германию собирайся», людзі не спалохаліся, не кінуліся ўцякаць у лес, бо ведалі, што вёска абавязкова акружана нямецкімі жаўнерамі й паліцыянтамі. Уцякаць было бязсэнсоўна, немцы й іх халуі абавязкова будуць страляць. Гэта людзі ведалі дакладна, у памяці жыў вопыт суседніх вёсак.

У хаце Ліды Ігнатовіч таксама пачулі гэты страшны крык. Бацька загадаў усім хуценька ўзьнімацца з ложкаў, цяплей апранацца й быць гатовым да ўсяго. Маці, ціхенька галосячы, зьбірала для кожнага нешта з ежы. Неўзабаве ў дзьверы хаты пастукалі. Бацька пайшоў адчыняць і вярнуўся з двума нямецкімі жаўнерамі. Адзін, відаць, старэйшы, пільна агледзеў сям 'ю. Яго позірк спыніўся на Лідзе. Сказаўшы коратка «ком», ён паказаў на дзьверы. Ліда апранула свой кажушок, маці ўлажыла ў рукі вузельчык, і дзяўчына пакрочыла ў цемру за немцамі.

Ліда добра памятае, як яе, перапалоханую, жаўнеры штурхнулі ў машыну. Хоць было цёмна, але яна разгледзела твары аднавяскоўцаў, дзяўчат, хлапцоў. Праз якую гадзіну пачулася каманда, і машына рушыла. За ёй вуркаталі рухавікамі яшчэ некалькі. У кузаве па бакох сядзелі два жаўнеры, якія забаранялі ўздымаць галаву, варушыць нагамі ці рукамі.

Праехаўшы гадзіну, машына спынілася. Пры сьвеце ліхтароў усіх загналі за калючы дрот. Калі разьвіднела, вязьні ўбачылі, што знаходзяцца ў полі, праз якое цягнулася чыгунка.

Дзесьці апоўдні да лягера пад 'ехаў цягнік з некалькімі крытымі вагонамі-таварнякамі. Нямецкі перакладчык патлумачыў, што ўсіх павязуць на працу ў Германію. Немец казаў, што гэтым трэба ганарыцца, бо там, сярод немцаў, у людзей зьнікне чырвоны камуністычны дух, і што ўсе змогуць узбагаціцца духоўна сярод арыйскай нацыі.

Бразнулі засаўкі вагонных замкоў, стала цёмна, й неўзабаве цягнік скрануўся. У дарозе неаднаразова спыняліся, але дзьверы заставаліся зачыненымі, нікога ня выпускалі. Так ехалі гадзін мо шэсьць, мо восем, дакладна ніхто ня ведаў.

Было цёмна, калі спыніліся на нейкай станцыі, пасьля даведаліся, што гэта Берасьце. Тут будучых працоўных цывілізаванага фатэрлянду зноў згрузілі й разьмеркавалі ў пакгаўзы, у якіх было шмат маладога й больш сталага народу, былі нават цэлыя сем 'і.

Ліда пазнаёмілася з дзяўчатамі з Клецку, Ляхавіч, якія ўжо некалькі дзён былі тут. Як растлумачылі новыя сяброўкі, яны знаходзіліся ў перасыльным лягеры, у якім зьбіраюць людзей з усёй Беларусі, а затым цягнікамі вязуць да Нямеччыны. Дамовіліся трымацца разам. Прыкладна праз дзьве гадзіны далі ежу, пахлёбку з буракоў і бульбы, хлеба не давалі. Потым дазволілі крыху прагуляцца, увогуле прагулкі былі тры разы на дзень. Немцы вельмі дакладна выконвалі расклад дня.

Пратрымаўшы ўсіх разам яшчэ двое сутак, варта лягеру пачала разьмяркоўваць людзей. Тых, хто быў адзін, адвялі ў іншы пакгаўз, а сямейных пакінулі на ранейшым месцы. Ноччу аднекуль падалі цэлы састаў і ўсіх пагрузілі ў вагоны. Цяпер павезьлі ў невядомую Нямеччыну. Бадай усю ноч і раніцу цягнік рухаўся без прыпынкаў. Вагон, ў якім ехала Ліда з сяброўкамі, быў набіты людзьмі, сесьці было нельга, а калі будзе нейкі прыпынак, ніхто ня ведаў. Асабліва было цяжка тым, хто быў бліжэй да сьцяны. Вагон хістаўся, і стомленыя людзі проста валіліся на тых, хто стаяў ля сьцен вагона.

...Пад аховай узброенай паліцыі па ўскрайках Лейпцыга вязьняў прыгналі на мануфактурную фабрыку. Хлапцоў разьмеркавалі ў фарбовачны цэх, а Ліду й дзяўчат — у ткацкія цахі. На жаль, калі вызначалі жыльлёвыя баракі, сяброўак разлучылі. Ліда трапіла ў пяты барак, дзе жылі ўжо французкія, італьянскія й польскія дзяўчаты.

Кожную раніцу ў барак заходзіла немка — кантралёр з бізуном, і калі хто-небудзь з дзяўчат не пасьпяваў узьняцца, атрымліваў «пачастунак». Даводзілася паспытаць моц бізуна й Лідзе. Немка задаволена сьмяялася, прымаўляючы па-польску «прошэ сядаць, бэндэм гадаць».

Працавалі дзесяць гадзін з двума перапынкамі на абед і падабедак. Нормы выпрацоўкі былі велізарныя, і хто іх не выконваў, атрымліваў паніжаную норму ежы.

Маладосьць ёсьць маладосьць, і часам пасьля адбою дзяўчаты садзіліся на нары ды сьпявалі песьні. Асабліва Лідзе падабаліся італьянскія мэлёдыі, любіла яна слухаць і французкія песьні, вельмі ўжо сьмяшыла яе вымаўленьне эр. Пераважная большасьць іншаземак у бараку не ствараць для Ліды дадатковых складанасьцей. За два гады, пакуль яна працавала ў Лейпцыгу, вывучыла няблага французскую, італьянскую й нямецкую мовы.

Немцы амаль не давалі ніякай інфармацыі аб тым, што робіцца на фроньце, але па сумных тварах немак, па іх мацярынскіх сьлязах па загінуўшых сынах дзяўчаты здагадваліся, што справы на франтах трэцяга рэйха ідуць дрэнна.

У сакавіку 1944 мануфактурную фабрыку разбамбіла авіяцыя. Некалькі дзён вязьні разьбіралі рэшткі абсталяваньня, гатовай, незгарэўшай тканіны. Пасьля гэтага Ліду й яшчэ некалькі соцень дзяўчат пераразьмеркавалі. І яна трапіла ў Баварыю, дзе пачала працаваць у сталоўцы тартака. На тартаку працуюць палонныя амэрыканскія й агнельскія лётчыкі. Ім спадабалася даспадобы бялявая высокая дзяўчына, якая лёгка размаўляе па-нямецку, французку, італьянску. Лётчыкі прыносілі ёй кветкі, рабілі падарункі, спрабавалі вымаўляць яе імя.

Валоданьне нямецкай мовай, працаглы тэрмін жыцьця ў Нямеччыне далі ўсе падставы немцам верыць Лідзе. Дзяўчына атрымала дазвол выходзіць за тэрыторыю тартака, купляць сёе-тое палонным ў крамах. Праз сістэму Чырвонага Крыжа палонныя атрымлівалі вялікую колькасьць пасылак з ежай, вопраткай, цыгарэтамі, якія выменьвалі ў аховы на маркі. Ня раз лётчыкі пыталі Ліду, чаму яе ўрад не клапоціцца пра сваіх людзей. Ня ведаючы, што адказваць, Ліда паціскала плячыма.

Час ішоў, сталы кантакт з амэрыканскімі й агнельскімі палоннымі даў ёй магчымасьць авалодаць яшчэ й мовай Байрана. Калі аднойчы раніцай на тартаку зьявіліся амэрыканскія танкі, ахова без супраціўленьня разьбеглася. Ліду разам з лётчыкамі паклалі у шпіталь. Месяц яна адпачывала, набіралася сіл. Потым з дапамогай сяброў па тартаку ўладкавалася на працу ў гуманітарны лягер для перамяшчэньня вязьняў. Прапрацаваўшы тры месяцы, Ліда прыняла прапанову ехаць да Аўстраліі й працаваць там ў асяроддзі новай эміграньскай хвалі ў якасьці тлумачальніка й дарадцы, куды каму лепей накіраваць высілкі ў пошуках працы, жытла.

Пагадзіўшыся, спадарыня Ігнатовіч з дабрачыннай місіяй Чырвонага Крыжа едзе ў Мэльбурн. У Аўстраліі яе чакае шмат працы. Тут знаходзяцца сотні тысяч ўчарашніх палонных, якія па волі лёсу апынуліся далёка ад сваёй радзімы. Гэта былі пераважна выхадцы з Цэнтральнай і Усходняй Эўропы. Многія ня ведалі мовы, традыцый краю, ў якім яны апынуліся. Асабліва пакутавалі рускія, казахі, узбекі, армяне.

Фактычна са сходаў карабля Ліда распачынае сваю благачынную дзейнасьць. Ходзіць у міністэрствы, консульствы, з дапамогай якіх спрабуе вярнуць на радзіму тых, хто, па яе думцы, ніколі ня знойдзе сабе месца ў вірлівым жыцьці пятага кантынэнту сьвету. Ёй удаецца праз савецкае паўпрэдства наладзіць пасажырскі транспарт да Уладзівастока. На жаль, хутка прыйшлі з Саюза весткі, што ўсіх тых, каго з такой цяжкасьцю пераправілі на Радзіму, НКВД рэпрэсавала як здраднікаў Радзімы. Пасьля гэтага Ліда болей не абівае ганкі савецкіх устаноў. Яна выходзіць на рускую эміграцыю, з дапамогай якой дабіваецца грамадзянства Аўстраліі тым, хто яшчэ заставаўся там. Дапамагаў Лідзе агнельскі хлапец. Ці то агульныя мэты, ці час, які праводзіць разам ангелец Том і беларуска Ліда, але ў 1947 годзе ў Аўстраліі з 'яўляецца маладая беларуска-ангельская сям 'я. Маладыя здымаюць двухпакаёвую кватэру на самым ускрайку Мэльбурна. Том ідзе працаваць докэрам у порт, Ліда ж адыходзіць з працы ў Чырвоным Крыжы й робіцца хатняю гаспадыняй. Тут, у Мэльбурне, у Тома й Ліды нараджаюцца двое сыноў, але Тома гэта ня вельмі радуе. Ён сумуе па родным Бірмінгэме, і, каб захаваць сям 'ю, Ліда вырашае ехаць з мужам у Англію.

На бацькаўшчыну Тома прыехалі ў канцы 1950 года. Пасяліліся ў сваякоў, Том пачаў шукаць працу, а Ліда займалася выхаваньнем дзяцей. Жыць доўга ў Англіі ёй не давялося. Расхварэліся дзеці, й лекары прыйшлі да высновы, што ім не падыходзіць клімат туманнага Амбіёна. Давялося вяртацца назад у Аўстралію. На гэты раз Том не пярэчыў. Купілі білеты й праз месяц сям 'я была ў Мэльбурне.

Лідзе вельмі хацелася застацца ў гэтым горадзе, але Том пажадаў мець сваю вытворчасьць ці хоць гаспадарку.

Яны едуць у цэнтр мацерыка, дзе ў той час на шырокую дарогу выходзіла авечкагадоўля. Том бярэ крэдыт у банку й выкупляе невялікі варштат па перапрацоўцы воўны. Непадалёк варштату на існуючыя сямейныя ашчадкі ўдалося набыць неблагое ранча. Зьявіўся дадатковы клопат. Трэба было пасьвіць авечак, стрыгчы іх, мыць воўну, да таго ж нарадзілася й дачка.

Ліда не разгубілася, яна змалку любіла працаваць, ўздымацца на золку, дый й час, пражыты ў Нямеччыне, шмат чаму навучыў. Таму, не шкадуючы сябе, яна працуе, выхоўвае дзяцей, вядзе хатнюю гаспадарку й дапамагае мужу на варштаце. Інакш нельга, побач канкурэнты, і калі не своечасова выканаеш заказ кліента, то згубіш яго, бо ў наступны раз ён пойдзе ў іншае месца.

Напружаная праца дала плён. Том поўнасьцю выплаціў банкаўскі крэдыт, і сям 'і стала значна лягчэй, да таго ж падрасьлі сыны й іх аддалі вучыцца ў платны каледж Сыднэя.

Чатыры гады навучаньня ў каледжы праляцелі хутка. Ліда спадзявалася, што сыны вернуцца й возьмуць справу бацькі ў свае рукі, але так не здарылася. Абодва ў хуткім часе пасьля заканчэньня каледжу ад 'ехалі да Амэрыкі. Там і жывуць зараз. Не пажадала застацца ў бацькоўскай хаце й дачка. Скончыўшы студыю выкладчыка музыкі, вырашыла застацца ў Сындэі, дзе больш заможных людзей і лягчэй знайсьці працу.

Час няўрымсьлівы. Адыйшоў, не дажыўшы да рэнты, у нябыт муж Том, дачка выйшла замуж і ад 'ехала з мужам да Новай Зэландыі, жыве ў Вэлінгтоне.

Ліда засталася адна, выйшла на рэнту. Варштат, на якім так любіла працаваць побач з Томам, здала ў арэнду. Прадаваць ня хоча, спадзяецца, што вернецца хто-небудзь з дзяцей, будзе свая справа.

Жыцьцё на ранча адной сумна. Зараз Ліда жыве ў гатэлі ў прыгарадзе Сыднэя, вельмі любіць пісаць і атрымліваць лісты ад дзяцей, з далёкай Радзімы Беларусі ад сястры. Бадай ў кожным лісьце яна просіць дасылаць ёй хоць сухія беларускія рамонкі й васількі.

**Па ўспамінах сястры Ліды Ігнатовіч і па шматлікіх лістах нататкі падрыхтаваў**

**Г. АСТРОЎСКІ.**

*Пошта*

## Хочаш жні, а хочаш куй...

Па дарозе дахаты на паседжаньне ў наш клюб ласкава завітаў прэзідэнт суседняе краіны спадар Валенсовіч. Ён прыгожа прамовіў з трыбуны, да якой прымацаваны кавалерыст з шабляй, а раней быў серп з молатам. Як калісьці аптымістычна сьпявалі «Хочаш жні, а хочаш куй!..».

Спадар прэзідэнт гаварыў пра вольнасьць, суверэнітэт, сяброўства, будучае жыцьцё бяз межаў з калючымі дратамі. У мяне нават сьляза нагарнулася. Потым ён мабыць ненаўмысна параўнаў свой «Фронт» з нашай «Салідарнасьцю». Не, прабачце, наадварот. Вялікай большасьці прысутных інвалідаў гэта надта ж не спадабалася, у кожнага адпаведная залоза ўпырснула арганізму моцную дозу жоўці. Аднак да канца яны самане атруціліся, й нашае паседжаньне працягвалася далей, пасьля таго як замежны прэзідэнт пакінуў нашую залу з трыбунай.

Потым на трыбуну ўлез адзін кволы на галаву член нашага клюбу. Ён пачаў скардзіцца на тое, што пры Абрэвіятуры жылося вольна, сытна й заможна: было ўсё, нават птушынае малако, а цяперака, маўляў, зусім наадварот. Затым пачаў плакацца, што трэба адарваць ад трыбуны халернага кавалерыста, каб зноў былі серп з молатам. Скончылася тым, што ён пусьціў сьлюні і яго зьвялі з трыбуны пад пахі. Што зробіш, небарака ўжо даўно з глузду зьехаў, поўны, выбачайце, ідыёт.

Наступны прамоўца доўга й нудна гаварыў пра «аўгіявы стайні» — аб праблеме вычышчэньня ад гною сьвінаводчых комплексаў, а скончыў натупнай высновай: «Выступленьне спадара Валенсовіча абвяргае тых скэптыкаў, якія ня вераць у ленінскі тэзіс пра тое, што дзяржавай могуць пасьпяхова кіраваць «простая кухарка, просты рабочы, просты электрык...». Яшчэ адзін дурань падаў голас. Можа й ня кожны прэзідэнт здолее сасмажыць яешню, спрачацца ня буду. Але з тысячы кухарак добра калі адна якая здолее сяк-так кіраваць краінай. Спадар Валенсовіч — выбітны выпадак, выключэньне. Усе астатнія кухаркі ў лепшым разе не перасольваюць суп і дакладаюць цалкам мяса ў катлеты.

Наш клюб якраз — яскравае сьведчаньне таго, як можа кіраваць купа кухарчыных дзяцей, г. зн. ніяк: суп цэлы час або недасолены, або перасолены, есьці яго немагчыма.

Апошнім пажадаў выступіць наш «самы каталіцкі каталік». Як пачаў брахаць: «Фашысты! Фашысцкі Фашызм! Гаў-гаў-гаў!..». Мала на чатыры лапы ня ўстаў. Зусім, як той казаў, без алею ў галаве. Не клюб інвалідаў, а праўдзівы дурдом.

**П. КАВЕНЬКА,**
**г. Савецк.**

**Беларускае аддзяленьне**
**Віленскага Пэдагагічнага Унівэрсітэту**

## ЗАПРАШАЕ АБІТУРЫЕНТАЎ

**на спэцыяльнасьць «Беларуская мова і літаратура»**

Пасьля заканчэньня ВПУ Вы зможаце працаваць у беларускіх школах Вільні, Віленшчыны і Рэспублікі Беларусі. Таксама на нашым аддзяленьні Вы атрымаеце яшчэ адну дадатковую спэцыяльнасьць.

Дакумэнты, якія неабходна падаць:

1) атэстат сталасьці альбо яго копія,
2) мэдычная даведка,
3) фотакарткі 3х4,
4) вынятка з працоўнае кніжкі (для тых, у каго ёсьць працоўны стаж).

Наш адрас: Катэдра беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры ВПУ, аўд. 527, Студэнту 39, 2034, Вільня.

Наш тэлефон 35-58-01.

Таксама ў нас Вы зможаце атрымаць дапамогу дзеля паступленьня ў вышэйшыя школы Беларусі.

**ТУРЫСТЫЧНАЯ ФІРМА**
## "VILNENSIJA"
**ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ**

## ЗАПРАШАЕМ У СТАРАДАЎНЮЮ ВІЛЬНЮ



— на 1 дзень (экскурсія, экскурсія з полуднем),
— на 2-3 і больш дзён (жыльлё, двухразовае харчаваньне, экскурсія па Вільні ды іншых месцах рэспублікі).

Форма аплаты па дамоўленасьці.

**Калі ласка, зьвяртайцеся на адрас:**
катэдра беларусістыкі
пэдагагічны унівэрсітэт
Студэнту 39, аўд. 527
2034 Вільня
Летува
Тэл.: (8-0122) 35-58-01, 45-82-91.

## А я вучуся на сваёй роднай мове !



**У Вільні пачынае працаваць Беларуская Гуманітарная Школа — нашчадак славутай Віленскай Беларускай Гімназіі**

**Запрашаем усіх ахвотных атрымаць паўнавартасную сярэднюю адукацыю:**

— выкладаньне па-беларуску й па-летувіску
— вывучэньне расейскай, польскай ды іншых замежных моваў
— эстэтычнае выхаваньне й практычны досьвед народных рамёстваў
— інтэрнат-пяцідзёнка
— ільготныя ўмовы для паступленьня ў вышэйшыя школы Беларусі

**Пачатак заняткаў — 1 верасьня 1993 г.**
**Наш тэлефон: 35-58-01**

**ВАС ВІТАЕ БЕЛАРУСКАЯ РЭДАКЦЫЯ ПОЛЬСКАГА РАДЫЁ!!!**
**ШТОДЗЁННА СЛУХАЙЦЕ ПЕРАДАЧЫ ПОЛЬСКАГА РАДЫЁ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ**

— Навіны з Польшчы і са сьвету
— агляды польскай штодзённай прэсы
— палітычныя камэнтары
— весткі пра жыцьцё беларусаў у Польшчы
— інфармацыі аб супрацоўніцтве паміж Польшчай і Беларусьсю
— інтэрв 'ю з вядомымі людзьмі палітычнага й культурнага жыцьця.

7.30 на кароткіх хвалях 41, 48 і 200 мэтраў (7145, 6095, 1503 кГц).
21.00 на кароткіх хвалях 31, 41, 49 мэтраў (9525, 7285, 7145 кГц).
23.30 на кароткіх хвалях 31, 41, 50 мэтраў (9525, 7145, 5995 кГц).

**Наш адрас: Беларуская рэдакцыя польскага радыё 00-950 Варшава, P. O BOX 46 Польшча**
**Тэл. (22) 45-93-66, 45-92-68, 45-92-62.**
**Факс (+4822) 444-123.**

**Шаноўныя сябры!**

Штотыднёвік **«ПАГОНЯ»** выдаецца ў Горадні як рэгіянальны агляд, ахопліваючы інфармацыйна таксама Віленшчыну й Беласточчыну, мае ў Вільні ўласнага карэспандэнта. Выдае газэту культурна-асьветніцкі фонд **«БАЦЬКАЎШЧЫНА»**.

Падпісацца на «Пагоню» можна ў кожным паштовым аддзяленьні Рэспублікі Беларусь. У вольным сьвеце ўмовы падпіскі наступныя: кошт газэты з перасылкай на 1 месяц — 10 амэрыканскіх даляраў, на 3 месяцы — 30, на паўгады — 60 даляраў.

Грошы трэба перасылаць на паступны рахунак:

З паметкай «на «Пагоню».





# АПОШНЯЯ СТАРОНКА



Наш бел-чырвона-белы сьцяг... Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.

## Крымінальная хроніка

■

Вечарам 2-га ліпеня раней судзімы 60-гадовы жыхар Ваўкавыска пад час расьпіцьця моцных напояў нанёс нажавыя раненьні ў лёгкае, горла, жывот і сьпіну сваёй 40-гадовай жонцы. Жанчына зьмешчана ў шпіталь, а сам спраўца апынуўся за кратамі.

■

Апошнім часам рабаўніцтвы й разбоі нярэдка зьвязаны з патрабаваньнямі вярнуць старую пазыку. На гэты раз на шляху Менск — Вільня ў Ашмянскім раёне два рабаўнікі спынілі легкавік 32-гадовага мясцовага бізнэсмэна й сілай адабралі ў яго прычэп «Зубраня», у якім знаходзілася 400 літраў дызэльнага паліва.

■

Яшчэ адно рабаўніцтва зафіксавана ў лесапарку Пышкі, дзе ў студэнткі Гарадзенскага унівэрсітэта двое падлеткаў сарвалі з пляча сумачку, у якой знаходзілася 3 тысячы рублёў, 75 даляраў і дакумэнты.

■

Ноччу з хлява жыхаркі г. Ліды, якая жыве на вул. Савецкай, скралі казу й казла.

■

Ня менш дзіўнае злачынства зьдзейсьнена ў Астравецкім раёне, дзе са складу райсельгасхіміі скрадзена звыш тоны розных ядахімікатаў агульным коштам 10 мільёнаў 528 тысяч рублёў. Цікава, што злодзеяў не супыніў і ведамасны вартаўнік.

■

Таксама з прымяненьнем транспарту зьдзейсьнены крадзёж 22 фундамэнтных блёкаў з будоўлі па вул. Горкага ў Горадні, якую вядзе кааперацыў «Пяргамэнт».

■

З царквы ў вёсцы Дольная Рута Карэліцкага раёна скрадзены 12 абразоў.

■

20 тысяч рублёў і заручальнага залатога пярсьцёнка не далічыўся рабочы Смаргонскага ільнозавода пасьля расьпіцьця сьпіртнога ў сваёй кватэры з таварышам па працы.

■

Факты падробу грошай зафіксаваны ў краме спажывецкай кааперацыі станцыі Гудагай Астравецкага раёна, а таксама ў Гарадзенскім аўтапарку № 3. З работнікамі гэтых установаў разьлічыліся падробнымі дзесяцірублёвай і пяцітысячнай купюрамі расейскага банку.

■

На КПП «Прывалкі» затрыманы грузавы аўтамабіль ГАЗ-52, на якім гарамадзянін Летувы спрабаваў вывезьці 5 бульбакапалак.

■

Цяжкімі наступствамі закончылася самавольная язда на аўтакране рабочага рамонтна-будаўнічага прадпрыемства № 18 Горадні, які самавольна сеў у кабіну і, рухаючыся заднім ходам, сутыкнуўся са сьцяной будынка. Ад гэтага звалілася бэтонная бэлька, якая пры падзеньні нанесла цялесныя пашкоджаньні іншаму рабочаму гэтага ж прадпрыемства.

■

Раніцай у суботу, пад час рыбнай лоўлі, на возеры каля вёскі Бершты Шчучынскага раёна выпаў з лодкі і ўтапіўся 40-гадовы жыхар Горадні.

■

У нядзельную ноч з вакна сваёй кватэры па вул. Юбілейнай у Смаргоні выкінуўся 32-гадовы грузчык райспажыўсаюза, які ад атрыманых пашкоджаньняў на месцы памёр.

**Г. СЫСОЙ.**

## Кветкі падаражэлі, мёд раскуплялі

Гарадзенскі рынак віруе, нягледзячы на падвышэньне коштаў. Адна ружа зараз можа каштаваць да шасьцісот рублёў, а праца й сродкі, патрачаныя на тое, каб яе вырасьціць, не апраўдваюцца. За кілаграм сьвіных касьцей трэба выкласьці амаль тысячу рублёў. Такая сітуацыя не даспадобы й самім гандлярам, бо грошай, выручаных ад продажу, хапае толькі на тое, каб закупіць якога-небудзь камбікорму ці мукі. А мёд зараз можна набыць толькі раніцай, кажуць, ня час. Гандляры чакаюць, пакуль нешта зьменіцца. Толькі крымскія чарэшні прадаюць ахвотна, нават калі й просіш таньней, бо ў дарозе яны былі трое сутак.

Кошты на некаторыя харчовыя тавары на Гарадзенскім рынку ў мінулыя выхадныя:

Сьвініна, 1 кг — 900—3500 руб.
Бараніна, 1 кг — 900—1600 руб.
Вэнджаніна, 1 кг — ад 800 да 4500 руб.
Сала салёнае, 1 кг — 1500 руб.
Сала вэнджанае, 1 кг — 1700 руб.
Шынка собская, 1 кг — 1200—2500 руб.
Тлушч, 1 кг — 500—700 руб.
Масла, 1 кг — 1800 руб.
Яйкі, дзесятак — 200—250 руб.
Сыр «Расейскі», 1 кг — 1600 руб.
Морква, 1 кг — 400 руб.
Бульба маладая, 1 кг — 250 руб.
Гуркі, 1 кг — — 290—320 руб.
Памідоры, 1 кг — 1000 руб.
Рэдзька, пучок — 70—80 руб.
Вішні, 1 кг — 1000 руб.
Парэчкі, 1 кг — 500 руб.
Маліны, 1 кг — 800 руб.
Агрэст, 1 кг — 600 руб.
Чарэшні, 1 кг — 900 руб.
Суніцы, 1 шк.— 200 руб.
Сьлівы, 1 кг — 900 руб.
Перац зялёны, 1 кг — 1500 руб.
Лімоны, 1 шт.— 350 руб.
Трускаўкі, 1 кг — 1200 руб.
Мёд, 1 кг — 2000 руб.
Разынкі, 1 кг — 1600 руб.
Бананы, 1 шт.— 300—320 руб.
Абрыкосы, 1 кг — 1700 руб.
Ружы, 1 шт.— 150—600 руб.
Гарэлка, 1 бут.— 700—1140 руб.

**М. ЖЫЛЕЎСКАЯ.**

**Удакладненьні:** у № 11 (25) ад 7 траўня г.г. у матэрыяле «Крымінальная хроніка», прадастаўленым прэс-цэнтрам УУС, была зроблена ненаўмысная памылка: замест слоў «... інспэктару гарадзенскай вабласной горна-тэхнічнай інспэкцыі» пададзена «інспэктару бюро тэхнічнай інвентарызацыі».

Паведамляем чытачам газэты, што № 19 (33) выйшаў па незалежачым ад рэдакцыі прычынам не 2, а 6 ліпеня.

Праграма тэлеперадач будзе стала друкавацца з № 21 (34).

## Бясплатна да Масквы

Яшчэ больш нахабна пачалі дзейнічаць пасьля апошніх пастановаў урада гарадзенскія спэкулянты білетамі. Зараз яны купляюць па некалькі білетаў на сваё прозьвішча й прадаюць іх даверлівым пакупнікам, сьцярджаючы, што яны таксама будуць ехаць у гэтым жа вагоне.

На жаль, даверлівасьць ахворчых ад 'ехаць як мага хутчэй абарочваецца для іх у час пасадкі ў сапраўдныя пакуты, бо «добрага» спадарожніка нідзе няма, а білет выпісаны на чужое імя. Нярэдка справу прыходзіцца вырашаць у габінэце дзяжурнага.

Дарэчы, білет да Масквы з рук спэкулянта каштуе ў будзённыя дні 5 тысяч рублёў, а ў выхадныя ён дасягае 7—8 тысячаў.

**Г. У.**

## Задарагая прыемнасьць

Бэнзін на камэрцыйных запраўках у Горадні каштуе за адзін літр амаль 200 рублёў. Але ж немагчыма зараз набыць яго й там па такім кошце. Спэкулянты прадаюць яго па чатырыста рублёў за адзін літр.

## У лазьні

Мужчыны ў лазьні не перастаюць абмяркоўваць палітычную сітуацыю ў краіне. Большасьць за Шушкевіча, хваляць, што ён ня хоча падпісваць вайсковае пагадненьне з Расеяй.

Апошнім часам зьявілася яшчэ адна тэма: навошта беларусам есьдзіць разьбіраць руіны маторнага завода ў Набярэжных Чаўнах, калі Кебіч хваліўся, што мы рыхтуемся выпускаць свае аўтобусы й легкавыя машыны? Есьць у Менску й свой маторны завод.

**А. К.**

## Сустрэча праз 10 год

У Гарадзенскім дзяржаўным мэдыцынскім інстытуце адбылася сустрэча выпускнікоў 1983 года. З шасьцісот былых выпускнікоў на сустрэчу прыехала крыху болей за 150 ахвочых убачыць сьцены гэтай вучэльні.

На жаль, былыя аднакурсьнікі ня шмат гаварылі аб сваіх навуковых здабытках, а болей ціснулі ў размовах на тое, як зрабіць бізнэс, як ад 'ехаць у замежжа на сталую працу й г. д.

**Г. У.**

## Сьвята футбола ў Палацы хімікаў

Як вядома, гарадзенскі «Нёман» у паўфінале Кубка Беларусі па футболу перамог менскае «Дынама», а ў фінале з лікам 2:1 — рэчыцкі «Ведрыч». У выніку каманда атрымала магчымасьць выступіць на эўрапэйскім турніры Кубка ўладальнікаў кубкаў. Гэта павялічыла цікаўнасьць да футбола, у прыватнасьці да «Нёмана», сярод гарадзенцаў. З гэтай нагоды ў Палацы хімікаў адбылася сустрэча футбалістаў і кіраўнікоў клюба з балельшчыкамі каманды, якія, напэўна, упершыню мелі магчымасьць убачыць іх не ў спартыўнай форме, а ў касьцюмах і пры гальштуках. Вялікая зала Палаца больш як на тры чвэрці была запоўнена аматарамі футбола, якія перад пачаткам сустрэчы паглядзелі відэазапіс фінальнага матча за Кубак Беларусі.

Першым павіншаваў спарцмэнаў і балельшчыкаў з перамогай старшыня Гарадзенскага гарсавету С. М. Домаш. Ён крыху спыніўся на гісторыі клюба, запэўніў, што гарсавет будзе падтрымліваць яго й маральна, й матэрыяльна, паведаміў аб плане рэканструкцыі стадыёна «Нёман» (былы «Чырвоны сьцяг»). Для гэтага шукаюцца сродкі, каб, калі каманда выйдзе ў другі тур Кубка ўладальнікаў кубкаў, яна магла гуляць у Горадні. Пакуль што па прычыне неадпаведнасьці эўрапэйскім стандартам гарадзенскага стадыёна першую гульню «Нёман» правядзе ў Менску.

Далей з боку прадстаўнікоў прамысловых прадпрыемстваў горада, якія ўручалі падарункі, гучалі віншаваньні й спадзяваньні, што каманд не спыніцца на дасягнутым. Ад ВА «Хваля» лепшыя ігракі «Нёмана» Г. Мардас, С. Гурэнка, А. Сысоеў, С. Кароза, Ю. Мазурчык і С. Саладоўнікаў атрымалі аўтамагнітолы, ад завода «Радыёпрыбор» астатнія футбалісты — радыёпрыёмнікі «Акіян». Ад мэблевай фабрыкі галоўнаму трэнеру каманды С. І. Уласевічу быў уручаны набор мэблі «Міраж». А «Прамбудбанк» прэміраваў клюб мільёнам рулёў.

Галоўны трэнер выказаў падзяку спонсарам і балельшчыкам за падтрымку й падкрэсьліў, што, дзякуючы яго каманьдзе, уся Эўропа даведаецца, што ёсьць такі горад Горадня. Адказваючы на пытаньні аматараў футбола, ён паведаміў, што вядуцца перамовы з італьянскай фірмай «Simod» аб падрыхтоўцы адзінай спартыўнай формы, сказаў, што асноўныя задачы для «Нёмана» — гэта пасьпяховае выступленьне на міжнароднай арэне й прызавое месца ў нацыянальным чэмпіянаце. У будучым каманда будзе мець назву «ЗКВ — Нёман», бо галоўны спонсар яе — Завод карданных валаў. З вуснаў аднаго з балельшчыкаў прагучала спадзяваньне, што клюб будзе ў хуткім часе мець свой колер, атрыбутыку, гімн. Пасьля заканчэньня сустрэчы кожны жадаючы мог патрымаць у руках Кубак Беларусі па футболу.

**А. ДУК.**


**«ПАГОНЯ»**

**Рэдактар С. АСТРАЎЦОЎ**

**Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»**

Адрас рэдакцыі: 230023, г. Горадня, вул. Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.
Газэта выдаецца штотыдзень па пятніцах.
Індэкс 63124. Ліцэнзія № 465.
Фотанабор, афсэтны друк.
Гарадзенская вабласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г. Горадня, вул. Паліграфістаў, 4.

**Падпісана да друку .1993 г.**
**Тыраж 3481 паасобнікаў. Замова 3307**